# ЗАКОН Рэспублікі Беларусь

# Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый

## ГЛАВА I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Плацельшчыкі падаткаў**

Плацельшчыкамі падаткаў на даходы і прыбытак з'яўляюцца прадпрыемствы, аб'яднанні, арганізацыі, установы, іх філіялы, прадстаўніцтвы, аддзяленні і іншыя адасобленыя падраздзяленні, якія ажыццяўляюць гаспадарчую і іншую камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці*.

**Артыкул 2. Аб'екты падаткаабкладання**

1. Падаткам на даходы абкладаюцца даходы, атрыманыя прадпрыемствамі ад прыналежных ім акцый, аблігацый і іншых каштоўных папер; ад долевага ўдзелу ў сумесных прадпрыемствах; відэапаказу; масавых канцэртна - відовішчных мерапрыемстваў, эксплуатацыі іграваых аўтаматаў з грашовым выйгрышам, ігральна - прызавых атракцыёнаў; здачы ў арэнду дзяржаўнай маёмасці, рэалізацыі маёмасці і замежнай валюты; правядзення латарэй.

Для мэт падаткаабкладання з выручкі, атрыманай ад указаных мерапрыемстваў, вылічваюцца матэрыяльныя затраты, звязаныя з атрыманнем гэтага даходу.

2. Прыбытак, які абкладаецца падаткам, вылічваецца зыходзячы з балансавага прыбытку, што ўяўляе сабой суму прыбытку ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг), іншых матэрыяльных каштоўнасцей (уключаючы асноўныя фонды) і даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый, зменшаных на суму расходаў па гэтых аперацыях.

У склад даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый уключаюцца даходы, якія паступілі ва ўласнасць атрымальніка ад аперацый, непасрэдна не звязаных з вытворчасцю прадукцыі (работ, паслуг) і яе рэалізацыяй.

У склад падаткаабкладаемага прыбытку будаўнічых арганізацый не ўключаюцца сродкі, якія атрымліваюцца ад заказчыка на развіццё матэрыяльна - тэхнічнай базы будаўніцтва.

3. Прадпрыемствы, якія не знаходзяцца на гаспадарчым разліку і атрымліваюць даходы ад гаспадарчай і камерцыйнай дзейнасці, падатак выплачваюць з сум перавышэння даходаў над расходамі, якія атрымліваюцца ад гэтай дзейнасці.

4. Сумы штрафных санкцый, якія ўносяцца ў бюджэт у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, выплачваюцца за кошт прыбытку, што застаецца ў распараджэнні прадпрыемства.

5. Прыбытак (даход), які абкладаецца падаткам, змяншаецца на суму вылічанага падатку на нерухомасць за асноўныя фонды.

**Артыкул 3. Затраты па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг), якія ўключаюцца ў яе сабекошт**

1. У сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) пры вызначэнні прыбытку ўключаюцца:

— матэрыяльныя затраты (за вылікам кошту зваротных адходаў);

— расходы на аплату працы;

— амартызацыйныя адлічэнні на поўнае аднаўленне асноўных вытворчых фондаў;

— адлічэнні на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне;

— адлічэнні на абавязковае медыцынскае страхаванне;

— плацяжы па абавязковаму страхаванню маёмасці, якая ўлічваецца ў складзе вытворчых фондаў;

— плата па працэнтах за кароткатэрміновыя пазыкі банкаў (акрамя працэнтаў па пратэрмінаваных і адтэрмінаваных пазыках і пазыках, атрыманых на папаўненне недахопу ўласных абаротных сродкаў і на набыццё асноўных сродкаў і нематэрыяльных актываў);

— іншыя расходы на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі, уключаючы расходы па ўсіх відах рамонту асноўных вытворчых фондаў, а таксама падаткі ў бюджэт, якія адносяцца на сабекошт прадукцыі, адлічэнні ў спецыяльныя фонды, прадугледжаныя заканадаўствам;

— затраты па ўтрыманню аб'ектаў аховы здароўя, дзіцячых дашкольных устаноў, устаноў культуры і спорту, якія знаходзяцца на балансе, у адпаведнасці з нарматывамі затрат, устаноўленымі для бюджэтных арганізацый.

2. Да матэрыяльных затрат адносяцца затраты на сыравіну і асноўныя матэрыялы (за вылікам кошту зваротных адходаў), пакупныя вырабы і паўфабрыкаты, дапаможныя матэрыялы, паліва, энергію, затраты, звязаныя з выкарыстаннем прыроднай сыравіны (адлічэнні на пакрыццё затрат па геолагаразведачных і геолагапошукавых работах, па карысных выкапнях, у тым ліку падатак за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак), затраты на рэкультывацыю зямель, плата, якая бярэцца за драўніну, што адпускаецца на корані), затраты на работы і паслугі вытворчага характару, выкананыя пабочнымі прадпрыемствамі і арганізацыямі.

3. У склад расходаў на аплату працы ўключаюцца выплаты па заработнай плаце, вылічаныя зыходзячы са здзельных расцэнак, тарыфных ставак і службовых акладаў, якія ўстанаўліваюцца ў залежнасці ад вынікаў працы, яе колькасці і якасці, стымулюючых і кампенсуючых выплат, уключаючы кампенсацыі па аплаце працы ў сувязі з павышэннем і індэксацыяй цэн, сістэм прэміравання рабочых, кіраўнікоў, спецыялістаў і іншых служачых за вытворчыя вынікі, іншых умоў аплаты працы ў адпаведнасці з прымяняемымі на прадпрыемствах формамі і сістэмамі аплаты працы, а саўгасамі, калгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі таксама ўключаюцца выплаты па выніках работы за год, якія вызначаюцца ва ўстаноўленым парадку.

У сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) не ўключаюцца наступныя выплаты ў грашовай і натуральнай формах: матэрыяльная дапамога, узнагароджанні па выніках работы за год, аднаразовыя заахвочванні асобных работнікаў за выкананне асабліва важных вытворчых заданняў, аплата дадаткова прадастаўляемых па рашэнню працоўнага калектыву (звыш прадугледжаных заканадаўствам) водпускаў работнікам, у тым ліку жанчынам, якія выхоўваюць дзяцей, надбаўкі да пенсій, аднаразовыя дапамогі ветэранам працы, якія выходзяць на пенсію, даходы (дывідэнды, працэнты), што выплачваюцца па акцыях працоўнага калектыву і ўкладах членаў працоўнага калектыву ў маёмасць прадпрыемства, аплата жылля, прэміі за стварэнне, асваенне і ўкараненне новай тэхнікі, за выкананне планаў па новай тэхніцы, па выніках спаборніцтваў, аглядаў, конкурсаў, накіраваных на выяўленне і выкарыстанне рэзерваў вытворчасці і павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, а таксама іншыя выплаты, якія праводзяцца за кошт прыбытку, які застаецца ў распараджэнні прадпрыемства або іншых мэтавых паступленняў.

4. Амартызацыйныя адлічэнні на поўнае аднаўленне асноўных фондаў праводзяцца зыходзячы з балансавага кошту асноўных вытворчых фондаў і зацверджаных ва ўстаноўленым парадку норм, уключаючы паскораную амартызацыю іх актыўнай часткі, якая праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Прадпрыемствы, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на ўмовах арэнды, уключаюць у сабекошт амартызацыйныя адлічэнні на поўнае аднаўленне як па ўласных, так і па арандаваных асноўных фондах.

Сумесныя прадпрыемствы, створаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з удзелам замежных юрыдычных асоб і грамадзян, праводзяць амартызацыйныя адлічэнні на поўнае аднаўленне па нормах і ў парадку, устаноўленым для прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана ўстаноўчымі дакументамі сумеснага прадпрыемства.

5. Асаблівасці складу затрат, якія ўключаюцца ў сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) у асобных галінах народнай гаспадаркі, устанаўліваюцца ў парадку, што прадугледжваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4. Стаўкі падаткаў**

1. Даходы, атрыманыя прадпрыемствамі ад прыналежных ім акцый, аблігацый і іншых каштоўных папер: ад долевага ўдзелу ў сумесных прадпрыемствах з удзелам замежных юрыдычных асоб і грамадзян, а таксама ў сумесных прадпрыемствах без удзелу замежнага капіталу, абкладаюцца па стаўцы 15 працэнтаў. Падатак бярэцца ў крыніцы даходу.

2. Даходы, атрыманыя ад казіно, відэасалонаў, эксплуатацыі іграваых аўтаматаў з грашовым выйгрышам, ігральна-прызавых атракцыёнаў, ад правядзення масавых канцэртна - відовішчных і іншых (акрамя спартыўных) мерапрыемстваў на адкрытых пляцоўках, стадыёнах, у памяшканнях, падлягаюць абкладанню падаткам па стаўцы 60 працэнтаў.

Наведванне гледачамі відэасалонаў, казіно, масавых канцэртна - відовішчных мерапрыемстваў на адкрытых пляцоўках, стадыёнах, у памяшканнях павінна арганізоўвацца толькі па ўваходных білетах, выраблены ва ўстаноўленым парадку.

Білеты падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў падатковай інспекцыі па месцы правядзення мерапрыемстваў.

Рэалізацыя білетаў любымі гаспадарніцкімі суб'ектамі без рэгістрацыі ў падатковай інспекцыі разглядаецца як утойванне даходаў.

3. Даходы, атрыманыя ад здачы ў арэнду прадпрыемстваў, цэхаў, участкаў з вытворчым абсталяваннем, якое належыць на праве ўласнасці дзяржаве (акрамя прадпрыемстваў, для якіх гэта з'яўляецца асноўным відам дзейнасці), абкладаюцца падаткам па стаўцы 50 працэнтаў.

4. Дадатковыя даходы, атрыманыя ад продажу прадукцыі, тавараў, маёмасці на аўкцыёнах, падлягаюць абкладанню падаткам па стаўцы 80 працэнтаў. Дадатковая выручка (даход) ад рэалізацыі прадукцыі і маёмасці, прынятых ад насельніцтва для рэалізацыі на аўкцыёнах, падлягае абкладанню падаткам па стаўцы 50 працэнтаў.

5. Даходы ад продажу замежнай валюты, атрыманай прадпрыемствамі ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці, абкладаюцца падаткам па стаўцы 15 працэнтаў, даходы ад продажу замежнай валюты, атрыманай ад іншых відаў дзейнасці, — па стаўцы 60 працэнтаў.

6. Даходы, атрыманыя ад правядзення латарэй, падлягаюць абкладанню падаткам па стаўцы 40 працэнтаў.

7. Прыбытак, атрыманы ад пасрэдніцкай дзейнасці, абкладаецца падаткам па стаўцы 60 працэнтаў.

Даходы, атрыманыя ад біржавой, брокерскай дзейнасці, абкладаюцца падаткам па стаўцы 60 працэнтаў.

8. Прыбытак прадпрыемстваў абкладаецца падаткам па стаўцы 30 працэнтаў.

9. Прыбытак камерцыйных, кааператыўных банкаў, страхавых арганізацый абкладаецца падаткам па стаўцы 44 працэнты.

10. Прыбытак сельскагаспадарчых прадпрыемстваў індустрыяльнага тыпу абкладаецца падаткам па стаўках, якія ўстанаўліваюцца абласнымі і Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў, але не вышэй стаўкі, указанай у пункце 8 гэтага артыкула.

**Артыкул 5. Ільготы па падаткаабкладанню**

1. Гэтым Законам прадугледжваюцца льготы па падаткаабкладанню, якія носяць пастаянны характар. Дадатковыя льготы ўстанаўліваюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пры зацвярджэнні бюджэту Рэспублікі Беларусь на чарговы год.

2. Прыбытак, які абкладаецца падаткам, вылічаны ў адпаведнасці з артыкулам 2 гэтага Закона, змяншаецца на:

а) прыбытак, фактычна выкарыстаны на мерапрыемствы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у адпаведнасці з рэспубліканскай праграмай:

б) прыбытак, фактычна выкарыстаны на правядзенне прыродаахоўных і супрацьпажарных мерапрыемстваў, навукова - даследчых і доследна-канструктарскіх работ:

в) прыбытак, фактычна выкарыстаны на расшырэнне (развіццё) вытворчасці, а таксама на павелічэнне вытворчасці тавараў народнага спажывання, паліўна - энергетычнага комплексу, будаўнічых матэрыялаў і пагашэнне банкаўскіх крэдытаў, атрыманых на гэтыя мэты пры недастатковасці ўласных крыніц на пачатак справаздачнага года.

Пры гэтым агульная сума льгатаванага прыбытку, выкарыстанага на мерапрыемствы, указаныя ў падпунктах «а», «б» і «в», не можа перавышаць 50 працэнтаў балансавага прыбытку:

г) суму затрат, якія ажыццяўляюцца за кошт прыбытку, што застаецца ў распараджэнні прадпрыемстваў, па ўтрыманню піянерскіх лагераў, устаноў народнай адукацыі, дамоў састарэлых і інвалідаў, аб'ектаў жыллёвага фонду, якія знаходзяцца на іх балансе, у адпаведнасці з нарматывамі затрат па аналагічных установах, што ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту, а таксама затрат на гэтыя мэты пры долевым удзеле прадпрыемстваў ва ўтрыманні ўказаных аб'ектаў і ўстаноў:

д) прыбытак гасразліковых лячэбна - вытворчых майстэрняў псіханеўралагічных бальніц, псіхіятрычных бальніц і дыспансераў, процітуберкулёзных устаноў, а таксама падсобных гаспадарак лячэбных устаноў; рамонтна - тэхнічных і транспартных арганізацый лячэбных устаноў, якія фінансуюцца за кошт сродкаў бюджэту;

е) прыбытак прадпрыемстваў ад вытворчасці пратэзна-артапедычных вырабаў, сродкаў рэабілітацыі і абслугоўвання інвалідаў;

ж) прыбытак выдавецтваў і друкарняў, які атрымліваецца ад выдання літаратуры на беларускай мове;

з) сумы прыбытку, унесеныя зарэгістраваным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь грамадскім фондам, арганізацыям і асацыяцыям, якія ажыццяўляюць дабрачынную, экалагічную, аздараўленчую дзейнасць, пералік якіх штогод устанаўліваецца пры фарміраванні бюджэту рэспублікі, а таксама пералічаныя прадпрыемствам, установам і арганізацыям аховы здароўя, народнай адукацыі, сацыяльнага забеспячэння, культуры, фізкультуры і спорту. Расходы, указаныя ў гэтым падпункце, не могуць перавышаць 1 працэнта абкладаемага прыбытку, які вызначаецца ў адпаведнасці з артыкулам 2 гэтага Закона;

і) суму ў размеры 50 працэнтаў прыбытку, атрыманага ад санаторна - курортнай, спартыўна - аздараўленчай дзейнасці;

к) суму ў размеры 50 працэнтаў абкладаемага прыбытку для прадпрыемстваў, папраўча - працоўных устаноў, якія прымяняюць працу асуджаных;

л) суму прыбытку прадпрыемстваў Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, атрыманую ад выпуску прадукцыі для ўстаноў народнай адукацыі рэспублікі.

3. Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак вытворчыя майстэрні, вопытна-эксперыментальныя заводы, падсобныя гаспадаркі і іншыя прадпрыемствы навучальных устаноў, якія ажыццяўляюць практычнае навучанне студэнтаў і навучэнцаў.

4. Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак вучнёўскія прадпрыемствы, калі колькасць працуючых вучняў складае не менш 80 працэнтаў ад сярэдняспісачнай колькасці працуючых.

5. Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак арганізацыі інвалідаў, іх установы, вучэбна - вытворчыя прадпрыемствы і аб'яднанні, калі колькасць інвалідаў складае не менш 50 працэнтаў ад сярэдняспісачнай колькасці прамыслова - вытворчага персаналу.

Абкладаемы прыбытак указаных прадпрыемстваў і арганізацый змяншаецца на 50 працэнтаў, калі колькасць інвалідаў складае ад 30 да 50 працэнтаў ад сярэдняспісачнай колькасці прамыслова-вытворчага персаналу.

6. Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак прадпрыемствы ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл, воінаў-інтэрнацыяналістаў, у якіх працуе не менш 70 працэнтаў пенсіянераў або воінаў - інтэрнацыяналістаў ад сярэдняспісачнай колькасці працуючых.

7. Пры вызначэнні прадпрыемствам права на атрыманне льгот, указаных у пунктах 4, 6 гэтага артыкула, у сярэдняспісачную колькасць работнікаў уключаюцца таксама і работнікі, якіх няма ў штаце прадпрыемства (якія працуюць па дагаворах падраду, іншых дагаворах грамадзянска - прававога характару і па сумяшчальніцтву).

8. Сумесныя прадпрыемствы, створаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з удзелам замежных юрыдычных асоб і грамадзян, калі доля замежнага ўдзельніка ў статутным фондзе перавышае 30 працэнтаў, і прадпрыемствы, што поўнасцю належаць замежным інвестарам (замежныя прадпрыемствы), уся выручка якіх утвараецца толькі за кошт рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці, вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак на працягу першых трох гадоў з моманту аб'яўлення прыбытку, уключаючы першы год аб'яўлення прыбытку.

9. Балансавы прыбытак сумесных прадпрыемстваў з удзелам замежных інвестараў, прадпрыемстваў, якія поўнасцю належаць замежным інвестарам (замежныя прадпрыемствы), змяншаецца на суму адлічэнняў у рэзервовы (страхавы) фонд у размерах, устаноўленых ва ўстаноўчых дакументах, але не больш 25 працэнтаў фактычна сфарміраванага статутнага фонду.

10. Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў могуць прадастаўляць дадатковыя льготы па падатку на даходы і прыбытак у межах сум падаткаў, якія залічваюцца ў мясцовыя бюджэты.

**Артыкул 6. Парадак і тэрміны выплаты падатку**

Парадак і тэрміны выплаты падатку ў адпаведнасці з гэтым Законам устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА II. АСАБЛІВАСЦІ ВЫЛІЧЭННЯ ПАДАТКУ НА ДАХОДЫ І ПРЫБЫТАК ЗАМЕЖНЫХ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ

**Артыкул 7. Плацельшчыкі падатку**

Плацельшчыкамі падатку з'яўляюцца замежныя юрыдычныя асобы, якія прызнаюцца такімі па заканадаўству краіны іх пастаяннага месцапрабывання.

Даходы асабістых кампаній для мэт падаткаабкладання разглядаюцца як даходы ўладальнікаў гэтых кампаній і падлягаюць падаткаабкладанню ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян».

Гаспадарчая дзейнасць прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі ажыццяўляецца ў парадку, прадугледжаным Законам Рэспублікі Беларусь «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

Адсутнасць рэгістрацыі замежнай юрыдычнай асобы, якая ажыццяўляе дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, разглядаецца як утойванне даходу, які падлягае падаткаабкладанню.

**Артыкул 8. Аб'ект падаткаабкладання**

1. Асаблівасці фарміравання прыбытку і склад затрат, якія ўлічваюцца пры яго вылічэнні, вызначаюцца ў парадку, што ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі прамое вызначэнне прыбытку, атрыманага замежнай юрыдычнай асобай у сувязі з яе дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, не прадстаўляецца магчымым, дапускаецца па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь вызначэнне прыбытку на падставе валавога даходу або панесеных расходаў.

Замежныя юрыдычныя асобы, якія атрымліваюць аплату ў выглядзе прадукцыі ці маёмасці ў якасці кампенсацыі за дзейнасць, што ажыццяўляецца ў Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, выплачваюць падатак на прыбытак, вылічаны зыходзячы з дагаворных (кантрактных) цэн, цэн асноўных арганізацый - экспарцёраў або цэн, якія вызначаюцца на базе сусветных цэн на такую ж ці аналагічную прадукцыю або маёмасць.

2. Замежная юрыдычная асоба, якая ажыццяўляе дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь, карыстаецца ўсімі льготамі, прадастаўленымі заканадаўствам Рэспублікі Беларусь для падаткаплацельшчыкаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі пагадненнямі.

**Артыкул 9. Парадак вылічэння і тэрміны выплаты падатку**

1. Падатак на даходы і прыбытак замежных юрыдычных асоб вылічваецца штогод падатковым органам па месцы знаходжання замежнай юрыдычнай асобы або яе пастаяннага прадстаўніцтва.

2. Замежная юрыдычная асоба, што ажыццяўляе дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь, не пазней 15 красавіка года, які ідзе за справаздачным, прадстаўляе ў падатковы орган справаздачу аб дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама дэкларацыю аб даходах па форме, якая зацвярджаецца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь. Пры спыненні дзейнасці да заканчэння каляндарнага года ўказаныя дакументы павінны быць прадстаўлены на працягу месяца з дня яе спынення.

Дэкларацыя аб даходах замежнай юрыдычнай асобы, якая ажыццяўляе дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь, падлягае штогадовай праверцы гасразліковай аўдытарскай арганізацыяй за плату.

3. На суму вылічанага падатку плацельшчыку выдаецца плацежнае паведамленне па форме, зацверджанай Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Падатак выплачваецца ў тэрміны, указаныя ў плацежным паведамленні, у безнаяўным парадку ў рублях і ў замежнай валюце, у прапорцыі атрымання выручкі ў грашовых адзінках, якія знаходзяцца ў абарачэнні на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і замежнай валюце.

4. Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

Палажэнні гэтага Закона не закранаюць падатковых прывілей, устаноўленых агульнымі нормамі міжнароднага права і спецыяльнымі пагадненнямі Рэспублікі Беларусь з іншымі дзяржавамі.

5. Збіранне падаткаў на даходы і прыбытак замежных юрыдычных асоб можа быць спынена або абмежавана на аснове прынцыпу ўзаемнасці ў выпадках, калі ў адпаведнай замежнай дзяржаве такія ж меры ажыццяўляюцца ў адносінах да савецкіх юрыдычных асоб у прымяненні да такіх жа або аналагічных падаткаў, што павінна быць пацверджана падатковымі органамі гэтай дзяржавы.

6. Пры заключэнні камерцыйных здзелак з замежнымі фірмамі не дазваляецца ўключэнне ў кантракт падатковых агаворак, у адпаведнасці з якімі прадпрыемства, што выплачвае даход, бярэ на сябе абавязацельства несці расходы па выплаце падаткаў на даходы і прыбытак замежных юрыдычных асоб.

**Артыкул 10. Падатак на даходы замежных юрыдычных асоб, не звязаныя з дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь**

1. Замежныя юрыдычныя асобы, якія атрымліваюць даходы, не звязаныя з дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, выплачваюць падатак у размеры 20 працэнтаў па даходах ад дывідэндаў, працэнтаў, аўтарскіх правоў і ліцэнзій, фрахту, арэндных плацяжоў і іншых даходах, крыніца якіх знаходзіцца ў Рэспубліцы Беларусь і якія не звязаны з ажыццяўленнем дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва.

Сумы даходу ад фрахту, які выплачваецца замежным юрыдычным асобам у сувязі з ажыццяўленнем міжнародных перавозак, абкладаюцца падаткам па стаўцы 6 працэнтаў.

2. Даходы ў выглядзе працэнтаў па крэдытах, прадастаўленых для ажыццяўлення асобных дзяржаўных праграм, вызваляюцца ад абкладання падаткам.

3. Замежная юрыдычная асоба, якая мае ў адпаведнасці з міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь права на поўнае або частковае вызваленне ад падатку даходаў з крыніц у Рэспубліцы Беларусь, падае заяву аб зніжэнні або адмене падатку ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Падатак з даходаў замежных юрыдычных асоб з крыніц Рэспублікі Беларусь утрымліваецца прадпрыемствам, якое выплачвае даход замежнай юрыдычнай асобе, у валюце пераводу з поўнай сумы даходу пры кожным пералічэнні плацяжу.

*) У далейшым — прадпрыемствы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1991 г. г. Мінск.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» з 1 студзеня 1992 года.

2. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» прымяняецца прадпрыемствамі, аб'яднаннямі і арганізацыямі пры разліках з бюджэтам, пачынаючы з вынікаў дзейнасці ў 1992 годзе.

3. Устанавіць, што ў 1992 годзе за перавышэнне тэмпаў росту аплаты працы над тэмпамі росту аб'ёму рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) бярэцца з прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый (акрамя замежных юрыдычных асоб і сумесных прадпрыемстваў, доля замежнага капіталу якіх у статутным фондзе перавышае 30 працэнтаў) дадатковы падатак на прыбытак па стаўках, павялічаных у 1,5 раза з сумы сродкаў на аплату працы, якая перавышае яе рост зыходзячы з тэмпу росту рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг).

За базу для вызначэння прыросту сродкаў на аплату працы прымаецца фактычна склаўшаяся сярэдняя заработная плата на аднаго працуючага за папярэдні квартал, але не больш як пяць мінімальных заработных плат з улікам індэксацыі.

Да сродкаў на аплату працы адносяцца: усе віды заработнай платы (акрамя кампенсацыі і індэксацыі ў сувязі з інфляцыяй), прэміі і заахвочванні, матэрыяльная дапамога, аплата водпускаў, надбаўкі і даплаты, аплата прастояў, выхадныя дапамогі, сумы прадастаўленых сацыяльных ільгот у выглядзе аплаты харчавання, пуцёвак, праезду і г. д., аднаразовыя дапамогі і ўзнагароджанні, прадастаўленне бязвыплатных пазык, кошт прадукцыі і тавараў, якія выдаюцца ў натуральным выражэнні, іншыя выплаты, што носяць індывідуальны характар.

Па дзяржаўных прадпрыемствах, якія не прынялі да выканання дзяржаўны заказ, стаўка падатку на прыбытак павялічваецца на 5 адзінак.

Прадпрыемствы, якія забяспечваюць вытворчасць і пастаўку гандлюючым арганізацыям тавараў народнага спажывання (акрамя віна, лікёра-гарэлачных і тытунёвых вырабаў) звыш узроўню мінулага года, уносяць у бюджэт падатак на прыбытак, атрыманы ад гэтага прыросту, па стаўках, паніжаных на 50 працэнтаў; па віну і лікёра-гарэлачных вырабах — па стаўках, паніжаных на 20 працэнтаў.

4. Устанавіць, што захоўваецца дзеянне падатковых ільгот, прадугледжаных артыкулам 14 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу» і артыкулам 43 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь».

5. Абласным і Мінскаму гарадскому Саветам народных дэпутатаў да 1 лютага 1992 года вызначыць размеры ставак падатку на прыбытак, які атрымліваецца ад рэалізацыі прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі.

6. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

падрыхтаваць пералік грамадскіх фондаў і арганізацый, што ажыццяўляюць дабрачынную, экалагічную і аздараўленчую дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, на якія распаўсюджваецца дзеянне падпункта «з» пункта 2 артыкула 5 Закона. Прадставіць указаны пералік на зацвярджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь адначасова з праектам Закона «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1992 год»;

распрацаваць палажэнне, згодна з якім прадпрыемствы, аб'яднанні і арганізацыі павінны адносіцца да аграпрамысловага комплексу;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

у месячны тэрмін зацвердзіць інструкцыю аб парадку і тэрмінах выплаты падаткаў у адпаведнасці з гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1991 г. г. Мінск,

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб падатку на нерухомасць

**Артыкул 1.** Плацельшчыкі падатку

Плацельшчыкамі падатку на нерухомасць з'яўляюцца юрыдычныя асобы незалежна ад форм уласнасці, іх філіялы, аддзяленні, прадстаўніцтвы і іншыя адасобленыя падраздзяленні, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць, а таксама фізічныя асобы.

**Артыкул 2.** Аб'ект падаткаабкладання

Падаткам абкладаецца вартасць асноўных вытворчых і невытворчых фондаў, аб'ектаў новага і незавершанага будаўніцтва, якія з'яўляюцца ўласнасцю юрыдычных асоб, а таксама вартасць прыналежных фізічным асобам будынкаў.

**Артыкул 3.** Стаўкі падатку

1. Гадавая стаўка падатку на нерухомасць для юрыдычных асоб устанаўліваецца ў размеры 5 працэнтаў, для фізічных асоб — 0,1 працэнта ад вартасці аб'екта падаткаабкладання.

2. Стаўка падатку за нанава распачатае будаўніцтва (расшырэнне) аб'ектаў вытворчага прызначэння, якое ажыццяўляецца за кошт сродкаў юрыдычных асоб, устанаўліваецца ў размеры 30 працэнтаў каштарыснай вартасці аб'ектаў будаўніцтва.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь можа дыферэнцыраваць стаўкі падатку па рэгіёнах Рэспублікі Беларусь у межах да 30 працэнтаў.

3. Гадавая стаўка падатку на незавершанае будаўніцтва ўстанаўліваецца ў размеры 10 працэнтаў вартасці звышнарматыўнага незавершанага будаўніцтва па стану на пачатак справаздачнага квартала.

**Артыкул 4.** Ільготы па падатку

1. Вызваляюцца ад абкладання падаткам:

аб'екты сацыяльна-культурнага і бытавога прызначэння, а таксама жылы фонд мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў і арганізацый;

вытворчыя фонды арганізацый таварыстваў інвалідаў;

асноўныя вытворчыя фонды прадпрыемстваў сувязі;

збудаванні, прызначаныя для аховы навакольнага асяроддзя і паляпшэння экалагічнай абстаноўкі.

Пералік збудаванняў, прызначаных для аховы навакольнага асяроддзя і паляпшэння экалагічнай абстаноўкі, вызначаецца Дзяржаўным камітэтам па экалогіі Рэспублікі Беларусь;

жылыя дамы і надворныя будынкі, што належаць фізічным асобам, якія з'яўляюцца пенсіянерамі па ўзросту, інвалідамі I і II груп, і іншым непрацаздольным грамадзянам пры адсутнасці сумесна пражываючых працаздольных членаў сям'і; будынкі, што належаць сем'ям, галавой якіх з'яўляюцца бацькі або муж і жонка ваеннаслужачых, работнікаў Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі, загінуўшых або прапаўшых без вестак пры выкананні службовых абавязкаў.

2. Не бярэцца падатак за нанава распачатае будаўніцтва аб'ектаў па выпуску спецыяльнай прадукцыі для ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС; тавараў народнага спажывання; будаўнічых канструкцый, вырабаў і матэрыялаў; санітарна-тэхнічнага абсталявання; па перапрацоўцы, захаванню сельскагаспадарчай прадукцыі; па аказанню паслуг насельніцтву і аб'ектаў, якія з'яўляюцца ўласнасцю таварыстваў інвалідаў.

3. Не абкладаецца падаткам вартасць незавершанага будаўніцтва на будаўнічых аб'ектах і будоўлях, закансерваваных па рашэннях Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5.** Парадак вылічэння і тэрміны выплаты падатку ў бюджэт

1. Юрыдычнымі асобамі падатак вызначаецца штоквартальна зыходзячы з наяўнасці асноўных вытворчых і невытворчых фондаў па рэштакавай вартасці на пачатак квартала і 1/4 зацверджанай гадавой стаўкі. Па распачатых будаўнічых аб'ектах падатак уносіцца аднаразова. Фізічнымі асобамі падатак вызначаецца зыходзячы са страхавой ацэнкі прыналежных ім будынкаў на пачатак года.

2. Юрыдычныя асобы вылічваюць суму падатку самастойна і прадстаўляюць разлікі ў падатковыя органы не пазней 15 чысла месяца, які ідзе за справаздачным кварталам.

У выпадках, калі квартальная сума плацяжоў перавышае 100 тыс. руб., уносяцца авансавыя плацяжы.

3. Фізічныя асобы ўносяць у бюджэт сумы падатку на падставе паведамленняў дзяржаўных падатковых інспекцый.

4. Вылічэнне падатку на звышнарматыўнае незавершанае будаўніцтва пачынаецца па заканчэнні ўстаноўленага тэрміну будаўніцтва. Падатак уносіцца падраднай будаўнічай арганізацыяй — генеральным падрадчыкам — за кошт прыбытку, які застаецца ў яго распараджэнні. Сума падатку вызначаецца зыходзячы з вартасці незавершанага будаўніцтва на пачатак квартала і 1/4 зацверджанай гадавой стаўкі.

5. За нанава распачатае будаўніцтва падатак уносіцца заказчыкам.

6. Усе сумы падаткаў з юрыдычных і фізічных асоб залічваюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь.

7. Тэрміны ўнясення падатку вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ ПАРАДКУ ЎВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПАДАТКУ НА НЕРУХОМАСЦЬ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць» з 1 студзеня 1992 года.

2. Дзяржаўнаму камітэту па экалогіі Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін вызначыць пералік збудаванняў, прызначаных для аховы навакольнага асяроддзя і паляпшэння экалагічнай абстаноўкі, узгадніўшы яго з выканаўчымі камітэтамі абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1991 г. г. Мінск.

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

# «ПАТРЫЁТЫ» ШТУРМУЮЦЬ ІЛЬГОТЫ

**У аддзеле для льготнікаў, які існуе ў мінскім ЦУМе, выпадкова сустрэў старога знаёмага: той скручваў у рулон толькі што куплены шыкоўны дыван.**

— Тры тысячы ўбухаў! — з гордасцю паведаміў ён.— Нядаўна ў чаргу на халадзільнік запісаўся. Кажуць, праз квартал атрымаю. А там і «сценка» падыдзе.

— А як ты трапіў у льготнікі? — пацікавіўся я. — У Афганістане ж, здаецца, не ваяваў?

— Ён жа ў мяне лі-кві-датар! — гучна засведчыла яго жонка.— У зоне працаваў.

— І як доўга?

— А я ўжо не памятаю.

А я ўспомніў. Гэта было вясной 1987 года. Жора (назавём яго так) прабраўся да мяне ў перапоўненым аўтобусе.

— Ваенкамат зусім замучыў, — цяжка ўздыхнуў ён,— у Чарнобыль выбрашылі паслаць. Цэлы тыдзень дома не начую... Знайшлі дурня!

І вось Жора — патрыёт-ліквідатар. Мае адпаведнае пасведчанне, карыстаецца льготамі: ездзіць бясплатна ў гарадскім і прыгарадным транспарце, атрымлівае спецпайкі, за кошт дзяржавы адпачывае на цёплым і чыстым моры... За якія заслугі? Жора чатыры дні правёў у Хойніках. Чатыры дні з дарогаю туды і назад.

Колькі ў нас такіх «ліквідатараў»? На гэта пытанне я папрасіў адказаць кіраўніка спраў Першамайскага райсавета народных дэпутатаў Мінска **А. Капусту.**

— За ўсю рэспубліку сказаць не магу,— Анатоль Уладзіміравіч дастаў з шуфляды патрэбную паперыну,— а вось у нашым раёне такіх асоб некалькі дзесяткаў набярэцца. Усё законна! Прадставіў чалавек адпаведную даведку, засведчаную гербавай пячаткай, — мы абавязаны выдаць пасведчанне.

Мой субяседнік змоўк, паглядзеў за акно.

— Канешне, незаслужана прыраўнялі тых, хто прабыў у зоне паўгода, з тымі, хто з'явіўся там наскокам,— працягваў гаспадар кабінета. — Скажам, вадзіцель адвёз свайго шэфа ў Нароўлю, а праз два дні забраў яго адтуль — сёння ён патрабуе пасведчанне ліквідатара. У верасні мінулага года Дзяржкамчарнобыль часова прыпыніў выдачу дакументаў, а як будзе далей — пакуль што невядома.

У іншых раёнах, дзе давялося пабываць у апошні час,— карціна такая ж. Запаветныя пасведчанні атрымалі многія найбольш спрытныя прафсаюзныя і камсамольскія актывісты, кіраўнікі розных рангаў з міністэрстваў і ведамстваў, журналісты, былыя партыйныя работнікі. Наўмысна не называю іх прозвішчаў. І вось чаму. Вучоныя яшчэ не абгрунтавалі ступень уздзеяння малых доз радыяцыі на здароўе чалавека.

У 1988 годзе мяне прызвалі на спецзборы «для выканання адказнага задання савецкага ўрада». У Хойніцкім, Брагінскім і Веткаўскім раёнах прабыў паўгода. Неяк задумаўся: чаму ў палку служаць у асноўным прадстаўнікі слаўнага рабочага класа і калгаснага сялянства? А ці трапляюць сюды таварышы з наменклатурнай абоймы? Сякі-такі доступ да дакументаў меў, дапамаглі таксама саслужыўцы са штаба. Прагледзелі спісы асабовага саставу часці за 1987—88 гады. Пошукі аказаліся безвыніковымі. Сустрэлі некалькі дзесяткаў прозвішчаў спецыялістаў народнай гаспадаркі, настаўнікаў, медыкаў.

Крыху пазней афіцэр Першамайскага райваенкамата Мікалай Осіпаў растлумачыў:

— Думаеш, што мы не прызывалі афіцэраў запасу, якія займалі кіруючыя пасады? Прызывалі! Не раз пасыльныя прыносілі ім павесткі. Але назаўтра на стол ваенкома клалі хадайніцтва, сэнс якога наступны: калі возьмеце на зборы (імярэк), арганізацыя, прадпрыемства, а то і горад перастануць існаваць. Я ўжо не кажу пра даведкі накшталт такіх: вызваліце ад збораў у сувязі з хваробай цешчы ці замежнай камандзіроўкай. Зазірні ў ваенны камісарыят рэспублікі — і там шмат такіх дакументаў пакажуць.

Вось так: калі Радзіма прасіла дапамогі — у кусты, а калі ад яе можна ўварваць тлусты кавалак — мы тут першыя. Хачу, каб мяне правільна зразумелі: я не супраць ільгот, якімі карыстаюцца зараз тыя, хто па сваёй волі ці па волі начальства аказаўся ў небяспечныя дні ў пацярпеўшых раёнах. Я — за тое, каб усё ж аддаць, як кажуць, Богу Богава, а ліквідатару ліквідатарава. На жаль, у Законе Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» многае ўпушчана. Можна толькі здагадвацца — чаму? Спашлюся на артыкул 13 другога раздзела.

Згодна з ім, ліквідатарамі з'яўляюцца грамадзяне, якія «прымалі ўдзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС у 1986—1987 гадах у межах зоны эвакуацыі, ці занятыя ў гэты перыяд на эксплуатацыі ці іншых работах на ўказанай станцыі **(у тым ліку часова накіраваныя ці камандзіраваныя)**...» Апошнія словы падкрэслены мною невыпадкова. Што значыць часова? Дзень, тыдзень, месяц? Гэта па-першае. Па-другое, тут не агаворана ступень удзелу ў ліквідацыі. Скажам, хто больш рызыкаваў здароўем: начальнік у легкавушцы, які «аглядаў» мёртвыя вёскі ці выступаў у раённым доме культуры, альбо рабочы брэсцкага «Газаапарата», што лазіў па стрэхах хат, нашпігаваных атрутай?

Тое самае і з ліквідатарамі 1988 года. Дарэчы, гэта катэгорыя, па-мойму, незаслужана пакрыўджана. Мяркуйце самі. Начальнік ці яго вадзіцель пабывалі ў зоне 25—29 снежня 1987 года. Калгаснік з Мядзельшчыны шэсць месяцаў 1988 года займаўся дэзактывацыяй населеных пунктаў, будаўніцтвам агароджы Палескага экалагічнага запаведніка, зіму правёў у палатцы, з ранку да вечара знаходзіўся на забруджанай тэрыторыі. Скажыце, калі ласка, хто з іх больш апрамяняўся: начальнік з вадзіцелем ці калгаснік? Несумненна, апошні. А вось ільготы у іх розныя. Першыя рашэннем Мінфіна рэспублікі нават падаходным падаткам не абкладваюцца. А другія не маюць права стаць у льготную чаргу...

Пішу аб гэтым і лаўлю сябе на думцы: можа, адмяніць усе гэтыя льготы, а сродкі накіраваць тым, хто ляжыць пад кропельніцай у «Аксакаўшчыне», хто чакае — не дачакаецца перасялення, тым кволым бабулькам з зоны, якія выстойваюць гадзінамі ля сельскай крамы, каб купіць звычайныя пакаёвыя пантофлі — на смерць... Пішу і чую голас свайго ўяўнага апанента: ты выступаеш супраць закона, які прыняў парламент рэспублікі. Не, я — за закон! Але такі, кожны пункт і раздзел якога не выклікалі б супярэчлівых думак і пачуццяў.

Як вядома, усе кампенсацыі чарнобыльцам павінны выплачвацца за кошт фонду заработнай платы прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў, саўгасаў і г. д. І натуральна, прадпрыемствы ўсяляк імкнуцца пазбавіцца ад ліквідатараў, адмаўляюць ім у працаўладкаванні. А калі і выплачваюць кампенсацыю, то абдзіраюць, як ліпку. Зразумець такую пазіцыю няцяжка: чаму калектывы павінны плаціць свае кроўныя за галавацяпства тых, хто ўчыніў трагедыю?

І апошняе. Чытач можа падумаць, што артыкул напісаны з кан'юнктурных меркаванняў: аўтару зайздросна, што на яго не распаўсюджваюцца льготы ліквідатараў першых постчарнобыльскіх гадоў. Паверце, не зайздрошчу. Думаю аб сотнях «партызан» так званага Беларускага палка, якія сумленна выканалі свой грамадзянскі абавязак. А што датычыцца мяне асабіста... У чэрвені 1986 года я тры дні знаходзіўся ў Нараўлянскім і Мазырскім раёнах, у жніўні столькі ж часу — у Чэрыкаўскім, у верасні — у Касцюковіцкім. За 1987 год пабываў у камандзіроўках у Чачэрскім, Кармянскім, Чавускім раёнах. Праўда, па журналісцкіх справах. Але клапаціцца пра пасведчанне на льготы, дываны і шыкоўную мэблю забараняе адно: цяжкія, горкія сустрэчы з людзьмі, якіх страшная бяда спасцігла не ў камандзіроўцы, не ў кароткатэрміновым наездзе, а там, дзе яны жылі і, што самае жудаснае,— жывуць. І як быць з тымі, хто ехаў у тыя дні ў Хойнікі, Брагін, Ветку, Краснаполле не ў камандзіроўку, а — дадому, з трывогай і болем за бацькоў, за родных? І ніхто ж не адмяняў спрадвечнага сялянскага клопату — узараць поле, пасадзіць бульбу...

Які ўраджай збяром мы з душаў, што засяваліся раўнадушшам, няшчырасцю?

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ.**



Усё большую папулярнасць заваёўвае ў маладых брастаўчан барацьба дзю-до. Гэтым відам спорту сур'ёзна захапляюцца ў брэсцкай ДЮСШ № 7 звыш 200 пачынаючых спартсменаў, трыццаць з іх — прадстаўніцы «слабага» полу. Дзяўчаты ўнеслі ў агульную скарбонку медалёў брэсцкіх барцоў і сваю долю пераможных баёў.

НА ЗДЫМКУ: на трэніроўцы кандыдаты ў майстры спорту студэнтка Брэсцкага педінстытута Ала НАРАШЧУК і адзінаццацікласніца СШ № 26 Аксана МІХАЙРЫНА.

Фота Эдуарда КАБЯКА (БЕЛТА).



Трыццацігоддзе адзначыла нядаўна адзіная ў Беларусі рэспубліканская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву па коннаму спорту, што ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна. Многія яе выхаванцы сталі вядомымі ў краіне і за мяжой спартсменамі, алімпійскімі чэмпіёнамі.

Сёння ў Ратамскай РСДЮШАР конным спортам займаецца больш за трыста чалавек. У зімовым манежы трэніруецца некалькі груп коннікаў рознага ўзросту і ўзроўню падрыхтоўкі.

НА ЗДЫМКУ: вельмі любіць свайго чацвераногага сябра Таня ХАЛІМАНЦЭВІЧ.

Фота Івана ЮДАША (БЕЛТА)

**Уладзімір ГОЙТАН**

# Банда Мезіна

**Міліцыянеру мужнасці не пазычаць. Як, зрэшты, і доблесці, адвагі. Гісторыя ведае тысячы прыкладаў, калі, рызыкуючы сабой, салдаты правапарадку прадухілялі бяду, спынялі ашалелых злачынцаў, здаралася, прыкрывалі сабой іншых. Але каб парушыць прысягу, самому стаць на злачынны шлях, арганізаваць банду? Адным словам, стаць пярэваратнем? Такое цяжка сабе ўявіць. І ўсё ж...**

## ШАНТАЖ

Рувім Рыўкін пад'ехаў да «Мерыдыяна», як звычайна, недзе гадзін у адзінаццаць вечара, калі вясёлая публіка пакідае рэстаран. Тут ён падбіраў пасажыраў і развозіў іх на сваім арандаваным таксі па ўказаных адрасах. Тыя, зразумела, разлічваліся шчодра—у горадзе добра ведалі прыватнага возніка, ды і ён абы-каго не падбіраў—была свая кліентура, часцей за ўсё іншаземцы. Тыя асабліва не таргаваліся.

Вось і цяпер у чаканні пасажыраў Рыўкін пакручваў у руцэ ключы ад машыны. Падышоў яшчэ адзін таксіст. Перакінуліся словам.

Раптам на поўным ходзе за некалькі метраў ад іх, па-заліхвацку выпісаўшы паўкруг, спыніўся матацыкл. Чамусьці на «Яве» не было нумарных знакаў. Але на гэту акалічнасць спачатку ніхто не звярнуў увагі, як і на вадзіцеля, і на пасажыра, што сядзеў у яго за спіной. У абодвух звычайныя матацыклетныя шлемы з апушчанымі забраламі.

Матор «тачкі» працягваў працаваць. Тым часам пасажыр крыху мітусліва саскочыў на асфальт, агледзеўся і выхапіў з-пад крыса балоневай курткі нейкі прадаўгаваты прадмет.

Суха трэснуў стрэл. У шумным вэрхале, што панаваў наўкол, яго ніхто ўсур'ёз і не ўспрыняў. Але калі Рыўкін раптам асунуўся прама каля сваёй машыны, усе схамянуліся. Кінуліся да яго — і здранцвелі ад жаху: яго цела яшчэ працягвала торгацца, а з ранкі ў шыі струменіла кроў. Хтосьці зняў шапку.

Зароў матацыкл і, быццам застаялы рысак, ірвануў з месца. Крык, шум...

Раніцай у Жлобіне толькі і размоў было аб нападзе на прыватнага таксіста. Версій было шмат. У горадзе з'явіўся тэрарыст-маньяк, што забівае людзей,—гаварылі адны. Ды тут аруддуе цэлая банда,—сцвярджалі другія. Маўляў, справа іх рук і забойства Валянціна Жамойды. Гэта смерць таксама вельмі ўсхвалявала жыхароў горада і раёна.

Прыкладна тыдні за два да апісанага вышэй здарэння ў ноч з 23 на 24 жніўня 1989 года пры загадкавых акалічнасцях на Малевіцкім возеры быў забіты жыхар Жлобіна В. Жамойда. Яго знайшлі побач з вагончыкам, дзе звычайна жылі кааператары, якія ўзялі возера ў арэнду. Насцярожвала, што ў абодвух выпадках выкарыстана агнястрэльная зброя, хутчэй за ўсё стралялі з малакалібернай вінтоўкі або карабіна, да таго ж, абедзве ахвяры забіты ў шыю. Выпадковасць? Хутчэй заканамернасць, бандыцкі «почырк».

А неўзабаве жыхары Жлобіна пераканаліся, што ў горадзе арудуе сапраўдная банда. Ды і невядомыя злачынцы не вельмі ўтойвалі гэта. Па логіцы, учыніўшы адно злачынства, а тым больш—наўмыснае забойства, зламыснікі павінны былі стаіцца, залегчы на дно. А тут— усё наадварот.

Позна вечарам у кватэрах мясцовых кааператараў чуліся тэлефонныя званкі. Часцей за ўсё адзін і той жа грубы мужчынскі голас пагрозліва папярэджваў:

— Жамойда і Рыўкін адмовіліся дзяліцца з намі сваімі даходамі. Спадзяюся, вы будзеце больш разумнымі. Інакш...

Трэба сказаць, гэта былі не пустыя пагрозы. Некалькі разоў падобныя званкі ўзрушвалі і сям'ю кааператара Дзмітрыя Фарберава. А калі ён адмовіўся плаціць даніну, хтосьці кінуў пад акно кватэры трацілавы зарад. Рэальна адчуваючы небяспеку, Фарбераў вымушаны быў разам з сям'ёй перабрацца ў Кіеў, а затым і зусім падацца за кардон.

Быццам кляшчы, упіліся невядомыя вымагальнікі ў Марата — сына забітага Рыўкіна. З цынічнай нахабнасцю ўсё той жа голас пастаянна нагадваў яму па тэлефоне, што на беразе Малевіцкага возера павінен быў замест Жамойды праглынуць кулю ён, Марат Рыўкін. І калі будзе такім жа незгаворлівым, як бацька, дык хутка пойдзе за ім следам. Давялося і Марату пакідаць родныя мясціны, шукаць прытулку ў іншых краях.

А тым часам сітуацыя ў Жлобіне працягвала ўскладняцца... Начныя званкі, бясконцыя пагрозы. А тут яшчэ розныя паталоскі. Кожную раніцу горад прачынаўся ў чаканні новых жахлівых гісторый. Кагосьці абрабавалі ў цёмным завулку, пырнулі нажом у п'янай бойцы... І папаўзлі чуткі адна за другую страшнейшыя: не будзе ад бандытаў жыцця, чыя чарга наступная?

Патрэбны былі неардынарныя меры, каб вывесці горад з шокавага стану, спыніць паніку.

Следчы па асабліва важных справах пры пракурору рэспублікі Алег Іванавіч Дамурадаў прыбыў у Жлобін у разгар падзей. Яму і даручана было расследаванне справы аб забойстве Рувіма Рыўкіна.

Першая тоненькая папка з заявай жонкі пацярпеўшага, некалькімі нязначнымі дакументамі, якія маюць непасрэднае дачыненне да справы,—вось, бадай, і ўсё, з чаго пачынаў. Практычна з нуля.

Вядома, Алег Іванавіч ужо ведаў і пра забойства Жамойды, і пра шантаж кааператараў, прыватных прадпрымальнікаў. Аднак гэтыя падзеі яшчэ трэба было звязаць у адзіны ланцужок, і не проста логікай мыслення, але фактамі, доказамі, каб выявіць крыніцу зла. За гады работы ў пракуратуры следчаму неаднойчы даводзілася дзейнічаць разам з міліцыяй. І тут, натуральна, паспрабаваў звярнуцца за дапамогай да мясцовых кадраў. Веданне агульнага становішча, кантакты з насельніцтвам — гэта і многае іншае магло стаць неацэннай падмогай у арганізацыі пошукаў злачынцаў.

Аднак першая ж нарада ў гаррайаддзеле ўнутраных спраў насцярожыла. Літаральна на наступны дзень горад ведаў, што з Мінска прыбыў нейкі вельмі ўжо вопытны следчы, які, маўляў, умомант «раскруціць» усе тутэйшыя злачынствы. Называлі імя і прозвішча, пасаду. Але гэта яшчэ паўбяды. Сталі здабыткам грамадскасці падрабязнасці нарады, хоць яна і насіла службовы характар, бо распрацоўваліся толькі першыя версіі. Да таго ж, у нарадзе прымаў удзел афіцэрскі састаў, прысутныя былі строга папярэджаны— і на табе. Добра, калі хтосьці неасцярожна ляпнуў лішняе. А калі...

Алег Іванавіч рэгулярна дакладваў па інстанцыі аб ходзе расследавання, аб цяжкасцях, праблемах. Натуральна, не змоўчаў і пра гэты прыкры выпадак. Наверсе і без таго былі вельмі занепакоены становішчам спраў у Жлобіне. Растрывожаныя жыхары сігналілі ва ўсе інстанцыі: дапамажыце навесці парадак у горадзе! А тут яшчэ такі сур'ёзны пракол.

І вось крыху больш чым праз месяц пасля пачатку расследавання ў Пракуратуры рэспублікі адбылася экстранная нарада з удзелам прадстаўнікоў усіх праваахоўных органаў, уключаючы і Камітэт дзяржбяспекі. Было прынята рашэнне стварыць спецыяльную групу высакакласных аператыўных работнікаў па расследаванню жлобінскіх спраў. Паколькі следчы па асабліва важных справах пры пракурору рэспублікі Алег Іванавіч Дамурадаў пачаў ужо над гэтым працаваць, яму і даручылі ўзначаліць групу. Акрамя яго, у састаў групы ўвайшлі старшы следчы Жлобінскай міжраённай пракуратуры Ірына Вячаславаўна Бондарава, следчы Слаўгарадскай раённай пракуратуры Міхаіл Іванавіч Клязовіч, па рашэнню Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі—начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю падпалкоўнік міліцыі Мікалай Сяргеевіч Губскі, а таксама вопытныя аператыўныя работнікі капітан Анатоль Якаўлевіч Казырыцкі, старшы оперупаўнаважаны Уладзімір Сцяпанавіч Заяц і оперупаўнаважаны гэтага ж аддзела Ігар Рыгоравіч Лымар. Непасрэдна з УУС Гомельскага аблвыканкома ў групу ўвялі начальніка ўпраўлення крымінальнага вышуку Сяргея Канстанцінавіча Ушака, начальніка аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Мікалая Васільевіча Лосева, оперупаўнаважанага Уладзіміра Анатольевіча Козела і начальніка аддзела па раскрыццю злачынстваў супраць асобы Уладзіміра Ільіча Мельнікава. Акрамя таго, у групе былі два прадстаўнікі дзяржбяспекі — следчыя УКДБ па Гомельскай вобласці Аляксандр Ціханавіч Цукарэвіч і намеснік начальніка аддзела ўпраўлення Уладлен Якаўлевіч Сцепаненка.

Ужо на першай нарадзе хтосьці пажартаваў: не калектыў — чортаў тузін: у саставе групы 13 чалавек. Пажартавалі, пасмяяліся— і за работу. А яе і сапраўды — непачаты край. Размеркавалі абавязкі, абгаварылі версіі. Іх набралася шмат. Усе ўжо былі ў курсе той першай нарады, што праходзіла ў мясцовым гаррайаддзеле ўнутраных спраў. І хоць не было даных адносна крыніц уцечкі інфармацыі, выказаліся за тое, што ў мэтах перасцярогі такія нарады лепш за ўсё праводзіць або ў будынку аддзялення дзяржбяспекі, або ў міжрайпракуратуры. Як кажуць, беражонага і Бог беражэ.

Да прыезду аператыўнай групы крымінагенная сітуацыя ў горадзе крайне ўскладнілася. Шмат клопатаў было ад «кідал», ажывіліся валютчыкі: побач БМЗ, чужынцы—лафа для ўсялякага роду спрытнюг. Усяго некалькі дзён спатрэбілася вопытным работнікам вышуку, каб выйсці на след злачыннай шайкі «кідал», якую ўзначальваў Генадзь Козел. Да таго часу ашуканцы паспелі абабраць некалькі даверлівых прасцякоў, усунуўшы ім замест запаветных пачкаў грошай звычайныя папяровыя «лялькі». Верхавод атрымаў 5 гадоў, асуджаны былі і трое яго памагатых.

**(Працяг будзе).**

ГЭТА ЦІКАВА

## Лекі ад СНІДа

Растучае ва ўсіх краінах з вільготным кліматам дрэва гуайява, якое славіцца сваімі духмянымі пладамі, можа стаць галоўнай крыніцай сыравіны для атрымання прэпарату, які абяцае збаўленне ад СНІДа. Аб гэтым паведамляе йаханесбургская газета «Стар» (ПАР).

## Што ў «дыпламаце» дыпламата

За выкарыстанне дыпламатычнага багажу для незаконнага вывазу з Зімбабве рога насарога, што прымяняецца ва ўсходняй медыцыне для лячэння мужчынскай імпатэнцыі, у Харарэ затрыманы паўночнакарэйскі дыпламат Хван Дэй Сонг.

Раней па аналагічнаму абвінавачанню з Зімбабве, якая падтрымлівае цесныя адносіны з КНДР, быў выдвараны яго калега Пак Сі Енг, напомніла паўднёваафрыканская газета «Сітызен».

## Аб карысці «шкоднай прывычкі»

Самы пажылы француз, жыхар Эльзаса Эміль Ларан адсвяткаваў сваё 107-годдзе. Ён на дзесяць гадоў маладзейшы за самую старую француженку Жанну Кальман, аднак сярод мужчын утрымлівае ў краіне пальму першынства.

Ларан нарадзіўся і правёў усё сваё жыццё ў дэпартаменце Ніжні Рэйн, прысвяціўшы сябе вельмі незвычайнаму рамяству: быў кантралёрам якасці тытунёвых вырабаў. Пасля выхаду на пенсію пасяліўся ў сваёй дачкі. Сакрэт яго доўгажыхарства, як лічаць спецыялісты, просты: эльзасец, па-першае, вядзе вельмі спакойнае жыццё, любіць працаваць у садку, якому ён прысвяціў усе свае доўгія пенсіённыя гады.

Да 105-гадовага ўзросту ён іншы раз дазваляў сабе выкурыць трубку. Цяпер з гэтым пакончана.

Нядаўна ў яго быў пералом шыйкі бядра, да таго ж, цяпер некалькі пагоршыўся зрок. З-за гэтага ён пазбавіўся задавальнення чытаць сваю любімую сатырычную газету «Канар Аншэнэ», якая карыстаецца папулярнасцю ў Францыі.

## «Рагатыя» пад арыштам

Жывёлагадоўчыя двары нагадваюць у гэтыя дні многія паліцэйскія ўчасткі ў горадзе Дабола ў цэнтры Гвінеі. Як паведаміла гвінейскае агенцтва друку (АГД), у выніку паспяхова праведзенай аперацыі паліцыя арыштавала паблізу адміністрацыйнай акругі Дабола больш як 300 безнаглядных кароў і бычкоў. Асновай для арышту рагуль паслужылі шматлікія звароты гарадской інтэлігенцыі да ўлад са скаргамі на іх «свавольствы».

З надыходам сухога сезона ўладальнікам цяжка стала пракарміць рагатых, і іх пачалі выпускаць адразу пасля ранішняга даення на вуліцу для самастойнага пошуку падножнага корму. Сотні кароў, авечак, коз і аслоў, якія мірна пасвяцца на гарадскіх вуліцах і плошчах, ствараюць сур'ёзныя перашкоды руху аўтатранспарту, забруджваюць мясцовасць.

**(Па матэрыялах друку).**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 15 студзеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Дзівосныя азёры». Кінанарыс.
**9.00.** Беларуская літаратура. 9 клас.
**9.30.** Ліра.
**10.45.** «Баграціён». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Маленькая чараўніца».
**17.40.** «Ліса, мядзведзь і мужык», «Муравейка Ціпа». Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільмы.
**18.15.** Подых палескай нівы. Пра справы меліяратараў трэста «Брэстводбуд».
**18.55.** Наш каментарый. «Страсці па купонах».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны.
**19.35.** Сустрэча са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевічам. Прамая лінія.
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** «Шукай саюзнікаў у прыродзе». «Каралі галубкі». Дак. фільмы.
**21.30.** Біржавыя навіны.
**21.35.** НіКа.
**21.50.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Першая праграма**

**6.00.** Раніца.
**8.35.** Мультфільмы.
**9.10.** Дзіцячы музычны клуб.
**9.50.** Разам з чэмпіёнамі.
**10.05.** Маст. фільм «Іржа». 2-я серыя.
**11.00.** Дак. фільм «Бывай, зброя».
**11.30.** Канцэрт рускага народнага аркестра «Малахіт» г. Чэлябінска.
**12.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**12.20.** «Як дабіцца поспеху». Перадача 2-я.
**12.35.** Навукова-папулярны фільм «Народныя лекары».
**13.05.** Спорт для ўсіх.
**13.40.** «Хто як можа». Пра эстонскага мастака П. Мудзіста (Талін).
**14.15.** Тэлемікст.
**15.00.** Навіны.
**15.20.** «Сёння і тады».
**15.50.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 2-я серыя.
**17.00.** «Хто ж мы, немцы Сібіры ў 1990 годзе?» (Германія).
**18.00.** Навіны.
**18.20.** II Усесаюзны фестываль тэлепраграм для дзяцей і юнацтва. «Вясёлка надзей» (Мурманск).
**18.50.** Па законах рынку.
**19.30.** Шоу-праграма бальных танцаў.
**19.45.** Маст. фільм «Іржа». 2-я серыя.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Навіны.
**21.35.** «Лінія лёсу». Пра лёсы выдатных спартсменаў, якія пакінулі вялікі спорт.
**22.30.** Парадыз-кактэйль.
**24.00.** Навіны.
**0.20.** Міжнародныя спаборніцтвы па більярду.
**0.45.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 2-я серыя.

**Расійскі канал**

**8.00.** Весткі.
**8.20.** Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** Вольны час. «Дамашні клуб».
**9.05.** Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
**9.35.** Канцэрт аўтарскай песні.
**10.15.** Фільмы К. Поднієкса. «Мы». Частка 3-я.
**11.10.** Жыццё і смерць В. Мандэльштама.
**12.10.** Сялянскае пытанне. «Нялёгкі чалавек».
**12.30.** Н. Садур. «Панначка». Спектакль.
**14.00.** Весткі.
**16.00.** «Кантакт». Пяць карцін Э. Бялюціна.
**16.30.** Школа менеджэраў.
**17.00.** Тэлеагляд «Далёкі Усход».
**17.45.** Т. Ін. Ка.
**18.00.** Кубак свету па плаванню.
**18.40.** «Ад агульнага да прыватнага». Аб праблемах прыватызацыі ў Расіі.
**19.00.** «Вытрымкі мінулых няздзейсненых дзён...» Паэты І. Карлаў і М. Кабакоў.
**19.40.** Вольны час. «Дай лапу, сябар!»
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Свята кожны дзень.
**20.30.** Тварам да Расіі.
**20.50.** «А што ў кошыку?» Дак. фільм.
**21.00.** На сесіі Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі.
**21.30.** «Адзідас». Знаёмы незнаёмец.
**22.00.** Студыя «Нотабене».
**23.00.** Весткі.
**23.20.** «Другі ці шаснаццаты».

### 16 студзеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Жыццё ў танцы». Музычны фільм.
**9.50.** «Пасляслоўе». Маст. фільм.
**11.25.** «Дзень цыркавога артыста». Тэлефільм.
**16.30.** Беларуская літаратура. 9 клас.
**17.00.** Канцэрт выхаванцаў і настаўнікаў школ рэспублікі, прысвечаны 100-годдзю Р. Р. Шырмы.
**17.50.** «Дзівосны манеж». Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільмы «Элегія», «Званы памяці».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.35.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.40.** Факты і меркаванні. Беларуская палітыка.
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** Тыдзень Беларускага ўрада. Служба інфармацыі Савета Міністраў Беларусі паведамляе...
**21.00.** «Купалінка». Фільм-канцэрт.
**21.35.** НіКа.
**21.50.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Першая праграма**

**6.00.** Раніца.
**8.35.** Фільм — дзецям. «Прыгоды ў горадзе, якога няма».
**10.00.** Мультфільмы.
**10.35.** Мастацкі фільм «Іржа». 3-я серыя.
**11.35.** Дак. фільм «Коля модны».
**12.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**12.20.** Чалавек і закон.
**13.00.** «Пад знакам «пі».
**13.50.** «Таму і любыя мне людзі». Музычная кампазіцыя на вершы С. Ясеніна.
**14.15.** Тэлемікст.
**15.00.** Навіны.
**15.20.** «Клоуны». Фільм-канцэрт.
**15.30.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 3-я серыя.
**16.55.** II Усесаюзны фестываль тэлепраграм для дзяцей і юнацтва. «Лета ў кошыку» (Комі).
**17.15.** Фільм — дзецям. «Клоун Ларэці і ўсмешка».
**18.00.** Навіны.
**18.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**19.00.** Мультфільм «Мы ідзём шукаць».
**19.10.** Краіна туманаў, азёр і традыцый (Шатландыя).
**19.45.** Маст. фільм «Іржа». 3-я серыя.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Навіны.
**21.35.** Запрашэнне да музыкі.
**23.05.** «Крымінформ» паведамляе.
**23.20.** «З Лондана з любоўю, ці Непадарожныя нататкі». Перадача 2-я.
**24.00.** Навіны.
**0.20.** Аўтаралі Парыж — Трыпалі — Кейптаун.
**1.00.** «Пяшчотнасць да равучага звера». Маст. фільм. 3-я серыя.

**Расійскі канал**

**8.00.** Весткі.
**8.20.** Іспанская мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** Вольны час. «Калекцыянер».
**9.05.** Іспанская мова. 2-гі год навучання.
**9.35.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**10.35.** Фільмы Ю. Поднієкса. «Мы». Частка 4-я.
**11.30.** «У пошуках жанру». Л. Філатаў.
**13.05.** «Наш стары універсітэт». Тэленарыс.
**13.40.** 15 хвілін па «новаму часу».
**14.00.** Весткі.
**16.00.** М. Арцыбашаў. «Ворагі». Тэлеспектакль.
**17.45.** Т. Ін. Ка.
**18.00.** Грані.
**18.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** Рэформа для цябе.
**19.40.** Вольны час. «Увага, здымаю!»
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Свята кожны дзень.
**20.30.** СКВ.
**20.40.** Маст. фільм «Санта-Барбара». 9-я серыя.
**21.30.** На сесіі Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі.
**21.55.** Пятае кола.
**23.00.** Весткі.
**23.25.** Пятае кола (працяг).

## РАДЫЁ

### 16 студзеня

Апошнія паведамленні: 6.00. 7.00, 10.00, 15.00, 20.00, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». Ранішняя інфармацыйная праграма. 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — «Фрэскі Пагарыння». Нататкі У. Глушакова. 9.45 — новыя песні В. Раінчыка. 10.15 —«Званочак». Праграма для маленькіх. 11.15 — «Старонкі класічнай музыкі». 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». Інфармацыйна-музычная праграма. 14.00 — «Ваша думка, ваша прапанова». 15.15 — «Наш студзеньскі каляндар». Літаратурна-публіцыстычная перадача. 15.30 — «Восеньскі гром». Нататкі. 15.50 — вершы А. Вялюгіна. 16.05 — «Рамантыкі». 17.00 — У. Дарохін. Сімфонія № 3. «Ф. Скарына. Жыццё і неўміручасць». 17.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта». 18.00 —перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00— «Дзень нашага жыцця». 20.25— канцэрт Н. Кастэнкі і М. Жылюка. 21.00 — «Ад шчырага сэрца». Музычная праграма па пісьмах радыёслухачоў. 22.00— «Дабрыня». Публіцыстычная праграма. 22.30 — канцэрт. 23.10 — канцэртная праграма з удзелам зорак зарубежнай эстрады.

## НА ДВОР'Е

### 15 студзеня

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае надвор'е, часам ападкі, пераважна снег, месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Гродна і Брэсце — 1—3 градусы цяпла, у Мінску — каля 0, у Гомелі і Віцебску — 0 — мінус 2, Магілёве — 1—3 градусы марозу.

У наступныя двое сутак часам снег, мокры снег, слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ўначы 1—6 градусаў марозу, удзень ад 2-х марозу да 3-х цяпла. 17 студзеня на працягу сутак 0—5 градусаў марозу.

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ
## СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Пасланне сінода Беларускага экзархата напярэдадні стагоддзя Праваслаўнай Царквы ў Беларусі.**

**Пра дадатковую выдачу купонаў. Тлумачэнні і дапаўненні. Інфармблок.**

**Яшчэ раз пра мафію.** Дзейнічае ці не «савецкая мафія» ў Польшчы?

**Канцэпцыя рэформы аплаты працы ў народнай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь.** (Друкуецца са скарачэннем).

**Бюро даведак.**

**Кругагляд.** У ім артыкулы: «Кардынал Рауль Сільва: рускі народ вялікі ў сваёй велічы», «Еўрапейцы ўсвядомілі, што ў адзінстве сіла», «Хворыя лёгкія Дэлі».



Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Людміла Рыжанкова, намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 8.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.